ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 6 (105) 10 – 16 лютага 1995 г. Кошт 150 рублёў

*90 працэнтаў эканомікі Горадні ніколі не мела дачыненьня да бюджэта.* - ст. 3.

*Бежанцы з Літувы знайшлі іншы матыў: мы - гомасексуалісты, і нас за гэта на радзіме прасьледуюць.* - ст. 4.

*ЛДП не вычарпала рэзерв сваіх патэнцыяльных прыхільнікаў з ліку аматараў сьпіртнога.* - ст. 8.

*ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.*

## ЭКСПЕРЫМЕНТ ПАЧАЎСЯ Ў ГОРАДНІ

Днямі ў абласным цэнтры пабываў дырэктар фірмы "МЭППА" з чэшскага горада Градзец Краловы спадар Тэйхман. Справа ў тым, што ў адным з новых мікраараёнаў Горадні пры мантажы дома, будаўнікі ўпершыню ў сваёй практыцы прымянілі новы від трубаў - экапластык. Зманьціраваны стаякі з экалагічна чыстага матэрыяла. Маньціруецца экапластык хутка, без электразваркі. Напрыклад, у 36-кватэрным доме каналізацыя ўстанаўліваецца чатырма рабочымі ўсяго за 15-17 гадзін. Трубы з гэтага матэрыялу не баяцца перападу тэмператур, тэрмін іх службы - 300 гадоў.

Экапластык адкрыла для Гарадзеншчыны і рэспублікі вытворча-камерцыйная фірма "Грод-Вест" - адзіны на Беларусі прадстаўнік чэшскай фірмы "МЭППА". Сёньня яго ўжо прымяняюць на будоўлях Менска, Сьветлагорска і іншых гарадоў. А прыезд спадара Тэйхмана выкліканы менавіта цікавасьцю гарадзенскіх будаўнікоў і камунальнікаў да экалагічна чыстага і вельмі эканомнага матэрыялу.

**Мікола МАЗУР.**

## ПАКАРАНЫ ЗАБОЙЦА ПОЛЬСКАГА ГРАМАДЗЯНІНА

Два гады назад, калі ў Горадні буйна "квітнеў" рэчавы рынак, у адну з летніх начэй адбылося забойства. Невядомы, ноччу, на адной з ціхіх вулачак прыватнага сектару, напаў на грамадзян Польшчы, якія сядзелі ў машыне, бітком набітай модным адзеньнем. Вадзіцель аўтамабіля быў забіты нажом, а яго швагерка - паранена... Гарадзенскія медыкі вьіратавалі ёй жыцьцё. Сьледчыя органы напалі на сьлед забойцы - жыхара Горадні Сазонава, але таму ўдалося знайсьці паратунак на вялікіх абшарах "страны огромной".

І вось, напрыканцы года, у Расеі, забойца "засьвяціўся". Па этапу яго даставілі ў Горадню. На мінулым тыдні адбыўся суд. Ён прыняў рашэньне аб выключнай меры пакараньня. Сазонаў, дарэчы, не карэнны гарадзенец, а ўраджэнец горада Краснаярска, сын вайскоўца, які асеў у горадзе над Нёманам.

**М.КОНЬНЕСКІ.**

# БЕЛАРУСЬ: ОПТАМ І Ў РОЗЬНІЦУ

### ЗАЯВА

### дэпутатаў і Ценявога (грамадзкага) Кабінета Міністраў Апазіцыі БНФ

**6 студзеня гэтага года Старшынёй Кабінета Міністраў пры Прэзідэньце Рэспублікі Беларусь М.Чыгіром падпісаны Мемарандум "О расширении и углублении белорусско-российского сотрудничества" і шэраг пагадненьняў, падрыхтаваных Расейскай Федэрацыяй ("О Таможенном союзе", "Об основных принципах создания финансово-промышленных групп", "О порядке завершения строительства, использования и содержания Узла Барановичи системы предупреждения о ракетном нападении" і інш.) Зьмет гэтых дакументаў, раскрыты ў заключэньнях экспертаў і спецыялістаў Апазіцыі і Ценявога Кабінета Народнага Фронту, сьведчыць аб змове і сумесных дзеяньнях расейскай і беларускай мафіёзнай бюракратыі, накіраваных на захоп эканомікі і нацыянальнай маемасьці Беларусі. Расейская кіруючая бюракратыя, якая валодае цяпер ужо не толькі ўладай, дзяржавай, але і прыватнай уласнасьцю на маёмасьць дзяржавы, дамагаецца для сябе гарантаванага бяспошліннага транзіту ўсіх відаў тавараў і энергарэсурсаў праз Беларусь, ліквідацыі беларускага экспарту ў трэція краіны, бясплатнай прысутнасьці расейскіх ваенных баз і экалагічна шкодных ваенных аб'ектаў на тэрыторыі Беларусі, ліквідацыі межаў паміж Беларусьсю і Расеяй і сумеснага распараджэньня (аховы) беларускіх межаў з трэцімі краінамі, свабоднага, нічым неабмежаванага перамяшчэньня расейскай рабочай сілы на тэрыторыі Беларусі, пераходу ключавых пазіцыяў эканомікі (заводаў, прамысловых галін, інфраструктуры) ва ўласнасьць расейскіх канцэрнаў і фінансава-прамысловых груп з магчымасьцю наступнага закладу і перапрадажы яе заходнім банкам.**

**Гэтыя палажэньні, адлюстраваныя ў пагадненьнях, маюць, перш за ўсё, палітычны характар і накіраваны на поўнае зьнішчэньне суверэнітэту і дзяржаўнасьці Беларусі, якое настае адразу пасьля рэалізацыі пагадненьняў.**

**Пасьля першага этапу ліквідацыі дзяржаўнасьці Беларусі пачнецца другі - палітычная анэксія шляхам імітацыі "аб'яднаньня", "уваходжаньня", "цеснага саюзу" і т.п. Гэтая перспектыва ўжо разыгрываецца шавіністычнымі дзеячамі і адыёзнымі асобамі расейскай палітыкі, якія патрабуюць удзелу беларусаў то ў бруднай вайне ў Таджыкістане, то ў сумесным паседжаньні расейскай Думы.**

**Падзеі, што адбываюцца ў Расеі, яе агрэсіўная крывавая захопніцкая палітыка, замах на незалежнасьць Беларусі сьведчаць аб разьвіцьці і новым афармленьні крымінальнай дзяржавы там, дзе парушаюцца правы чалавека, нацыі, сфармавалася бюракратычна-мафіёзная эканоміка. Гэтая дзяржава стварае пагрозу Беларусі і ўсім краінам былога, таксванага, "сацыялістычнага лагера". Ініцыятыва Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у падтрымцы расейскай палітыкі, накіраванай на захоп эканомікі і маёмасьці Беларусі, падпісаньне Старшынёй Кабінета Міністраў пры Прэзідэньце краіны пакета антыканстытуцыйных пагадненьняў, што супярэчаць нацыянальным інатрэсам Беларусі, утрымліваюць у сабе прыкметы дзяржаўнай здрады, антыдзяржаўнай дзейнасьці і падлягаюць асобаму разгляду ў Вярхоўным Савеце і Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусі.**

**Вышэйшы заканадаўчы орган улады павінен прызнаць несапраўднымі падпісаныя пагадненьні. Створаны бяспрыкладны прэцэндэнт антынароднага выкарыстаньня легітымнай улады, што выклікае дрэнныя наступствы і вымагае рашучых канстытуцыйных захадаў па абароне дзяржаўнай незалежнасьці, нацыянальнай эканомікі, законаў краіны.**

## ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ

### Аб "Мемарандуме аб пашырэньні і паглыбленьні беларуска-расейскага супрацоўніцтва"

Уступная частка Мемарандума носіць дэкларатыўны характар, камуфлюючы асноўны яго зьмест. Калі ў прэамбуле Мемарандума гаворыцца пра прынцыпы павагі суверэннасьці, раўнапраўя і недыскрымінацыйнага гандлю, то ў наступных артыкулах гэтыя прынцыпы груба парушаны на карысьць Расейскай Федэрацыі ; а Беларусь, згодна падпісаным дакументам, страчвае кантроль над сваёй эканомікай, зьнешняй палітыкай, інфраструктурай дзяржавы, што непазьбежна вядзе да страты незалежнасьці і дзяржаўнасьці. У выніку, Беларусь становіцца геапалітычным прыдаткам Расеі, пазбаўленым уласнай зьнешняй і унутранай палітыкі, здольнасьці да абароны сваіх эканамічных і палітычных інтарэсаў.

Ужо ў п.2 Мемарандума прадугледжваецца прыняць пакет пагадненьняў па збліжэньню заканадаўстваў. Наўрад ці Расея будзе зьмяняць сваё заканадаўства на карысьць Беларусі. У п.3 сказана, што ў аснову эканамічнага супрацоўніцтва павінны быць закладзены прынцыпы свабоднага і недыскрымінацыйнага гандлю. Але што перашкаджае ўжо зараз спыніць дыскрымінацыйныя адносіны Расеі да Беларусі - без падпісаньня прапанаваных дакументаў?

Далей у гэтым жа пункце ставіцца задача стварэньня агульнага рынка рабочай сілы. Гэта непрымальна ва ўмовах розьніцы структур эканомікі (перш за ўсё прамысловасьці) і, асабліва, несупастаўляльных аб'ёмаў расейскага і беларускага рынку рабочай сілы. Пры ўвядзеньні агульнага рынку рабочай сілы непазьбежны: рост безпрацоўя у нашай краіне, міграцыя рабочай сілы з Расеі ў Беларусь у вялізных аб'ёмах, разбурэньне традыцыйнага культурнага ўкладу, абвастрэньне дэмаграфічных і сацыяльных праблем.

Для Беларусі нявыгадны ўзаемны гандаль па цэнах, якія складаюцца на ўнутраных рынках, як патрабуе п.3 Мемарандума. Шматразовае адставаньне Беларусі па сярэдняй зарплаце і дадатковыя выдаткі на транспарціроўку энерганосьбітаў дазваляюць Расеі атрымліваць звышдаходы за кошт Беларусі.

У п.п. 4-10 Мемарандума раскрываецца асноўны сэнс падпісаных дакументаў. Так, у п.4 намечана стварэньне мытнага саюза Беларусі і Расейскай Федэрацыі на падставе ўзгодненасьці зьнешнеэканамічнай палітыкі, уключаючы мытную, зьняцьця тарыфных і нетарыфных абмежаваньняў, у тым ліку неспагнаньня мытных пошлін, адмены мытнага кантролю на агульнай мяжы пры безумоўным забесьпячэньні эфектыўнай сумеснай абароны зьнешніх межаў, мытнага саюза і правядзеньні ўзгодненай зьнешнеэканамічнай палітыкі ў адносінах да трэціх краін. Тут адкрыта абвяшчаецца задача перамяшчэньня мяжы Расеі на захад - ад Смаленска да Берасьця. Расейскія памежнікі, зыходзячы з сумеснага характара абароны зьнешніх межаў, стануць па перыметру Беларусі, а беларускія памежнікі, відавочна, зьявяцца на таджыкска-афганскай мяжы.

Узгадненьне зьнешнеэканамічнай палітыкі ў адносінах да трэціх краін ператворыць Беларусь у палітычнага сатэліта Расеі. Са свайго боку, "трэція краіны", а гэта ўвесь застаўшыхся сьвет, будуць будаваць адносіны з Беларусьсю праз адносіны з Расеяй. І калі шэраг краін прыме эканамічныя санкцыі ў адносінах да Расеі, то яны аўтаматычна распаўсюдзяцца на Беларусь. Такім чынам, мы ізноў трапім у сітуацыю, калі зможам апынуцца за "жалезным занавесам" не па сваёй волі.

У п.5 сказана: "ажыцьцявіць практычныя дзеяньні па ўзгадненьню бюджэтнай, падаткавай і цэнавай палітыкі, узаемнаму допуску на ўнутраныя рынкі ўпаўнаважаных бакоў"., а таксама іншыя мерапрыемствы па фарміраваньню агульнага фінансавага рынку. Увядзеньне ўзгодненай ці агульнай падаткавай і ценявой палітыкі прывядзе да абароны расейскага вытворца ва ўрон беларускаму, а беларускі падаткаплацельшчык будзе апасрэдавана фінансаваць развіцьцё эканомікі Расеі і войнаў, якія яна вядзе і канца якім не бачна. Акрамя таго, прыход на Беларусь расейскіх банкаў прывядзе да зьніжэньня актыўнасьці яе нацыянальных банкаў, з абавязковым у далейшым іх поўным ці частковым паглынаньнем. У сувязі з тым, што ў Расеі прыняты законы аб абмежаваньні на яе тэрыторыі дзейнасьці заходніх банкаў, Беларусь, у адпаведнасьці з падпісанымі пагадненьнямі, вымушана будзе адэкватна зьмяніць сваё заканадаўства, што істотна абмяжуе нашыя магчымасьці ў разьвіцьці эканамічных адносін з заходнімі краінамі.

У п.6 прадпісана ажыцьцявіць канкрэтныя меры па стварэньню фінансава-прамысловых груп (ФПГ), а таксама стварыць умовы для ўзаемнага допуску інвестыцый і набыцьці нерухомасьці. Прапанаваны пералік галін, дзе намечана стварэньне ФПГ, сьведчыць, што ў першую чаргу павінны стаць ахвярай прапануемай "эканамічнай" палітыкі найбольш перспектыўныя і рэнтабельныя заводы і аб'яднаньні Беларусі. Да правядзеньня поўнай прыватызацыі ў прамысловасьці і сельскай гаспадарцы прапануемыя псеўдамерапрыемствы ў эканоміцы пазбавяць грамадзян Беларусі матэрыяльных каштоўнасьцяў, створаных іх працай і працай папярэдніх пакаленьняў. Тут мы маем справу з новым вітком абрабаваньня нашага насельніцтва, якое і без таго знаходзіцца за ўсялякай уяўляемай рысай беднасьці.

Раўнапраўе Беларусі і Расеі ў пытаньнях стварэньня ФПГ можа быць толькі пры роўных аб'ёмах узаемных інвестыцый у прамысловасьці і сельскай гаспадарцы, а таксама пры недапушчэньні перадачы больш чым 20 працэнтаў акцый інфраструктуры дзяржавы кампаніям іншай дзяржавы (да інфраструктуры адносяцца прадпрыемствы і арганізацыі паліўна-энергетычнага комплекса, сувязі, транспарта, ваенна-прамысловага комплекса і навукі). Палітычны бок акцыі зразумелы: хто кантралюе інфраструктуру дзяржавы, той кантралюе і тэрыторыю.

Рэалізацыя п.7 Мемарандума аб аб'яднаньні паліўна-энергетычных комплексаў для Беларусі зусім безперспектыўная. Запасы расейскай нафты спустошаны, і ўжо ў гэтым годзе дабываемай у Расеі нафты з газам з цяжкасьцямі можа хапіць на ўласныя патрэбы і пастаўкі па сваіх даўгах. З другога боку, рэалізацыя праекта Балта-Чарнаморскага нафтавага калектара дасьць магчымасьць загрузіць беларускія нафтаперапрацоўчыя заводы, а Расеі - атрымліваць па ўнутраных цэнах Беларусі прадукты перапрацоўкі нафты.

У п.9 прадпісана ажыцьцяўляць на аснове ўзаемнасьці свабоду траньзіта тавараў, транспартных сродкаў і паслуг, праезда грамадзян абедзьвюх дзяржаў праз іх тэрыторыі без спагнаньня мытных пошлін, падаткаў і іншых збораў, якія ўстанаўліваюцца ў адносінах траньзіта. Выкананьне п.8 вядзе да прамых эканамічных страт Беларусі ў аб'ёме да 2 млрд. долараў за год, бо нашай дзяржаве праз тэрыторыі Расеі перакачваць няма чаго, а нашым грамадзянам не трэба масава падарожнічаць у Сібір. У той жа час Беларусь для Расеі - галоўны траньзітны маршрут у Эўропу. Такім чынам, геаграфічны рэсурс Беларусі зьнікае і перадаецца ў выкарыстаньне Расеі. Аплата траньзіта здолела б пакрыць ад 40 да 70 працэнтаў патрэбаў Беларусі ў энергарэсурсах.

П.9 гаворыць: забясьпечыць удзел Рэспублікі Беларау(сь) і Расейскай Федэрацыі ў рэфармаваньні сістэмы калектыўнай бясьпекі... у рамках агульна склаўшайся ваенна-стратэгічнай прасторы, аснашчэньня узброеных сіл дзяржаў, кааперыраваньня ваеннай вытворчасьці і стандартызацыі ўзбраеньняў, дапускаць сумеснае выкарыстаньне аб'ектаў абарончага значэньня, якія разьмешчаны на іх тэрыторыях, а таксама выкарыстаньне Узброенымі Сіламі аднай дзяржавы аб'ектаў абарончага значэньня, якія знаходзяцца на тэрыторыі іншай дзяржавы. І далей: абарона зьнешніх межаў ва ўмовах адкрытасьці межаў між Беларусьсю і Расеяй зьяўляецца агульнай справай дзьвюх дзяржаў і будзе ажыцьцяўляцца сумеснымі намаганьнямі. Калі будзе ажыцьцёўлены толькі гэты пункт, то, па-першае, Расея зможа папоўніць сваё войска цэлымі падразьдзяленьнямі беларускіх прызыўнікоў з далейшым выкарыстаньнем у "гарачых кропках", падобных Чачні і Таджыкістану, у якасьці гарматнага мяса. Па-другое, усё беларускае насельніцтва стане закладнікам расейскай палітыкі, бо ў выпадку ваенных дзеяньняў першы ўдар будзе нанесены па ваенных аб'ектах на нашай тэрыторыі. Найбольш верагодная пагроза незалежнасьці Беларусі зыходзіць ад Расеі.

Нарэшце, у прыкладаемых да Мемарандуму дакументах указана, што механізм рэалізацыі пералічаных эканамічных і палітычных новаўвядзеньняў павінен быць дэлегаваны аднаму з бакоў.

На падставе вышэйвыкладзенага можна сьцьвярджаць , што Мемарандум і прыкладаемыя дакументы складзены без уліку эканамічных, палітычных і геапалітычных інтарэсаў Беларусі. Больш таго, узрастае непасрэдная небясьпека для нашай краіны, якая зыходзіць ад агрэсіўнай, вялікадзяржаўнай сучаснай расейскай палітыкі, характар якой з відавочнасьцю праявіўся ў чачэнскай вайне.

Са зьместу Мемарандума зразумела, што прадыктаваны ён інтарэсамі новых расейскіх мільянераў з былой партыйна-савецкай і гістарычнай наменклатуры і прадстаўнікоў ваенна-прамысловага комплексу Расеі.

Становіцца зусім зразумела: беларускім урадам падпісаны дакумент аб інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі, несумяшчальны з Канстытуцыяй нашай дзяржавы. Беларусь становіцца расейскім геапалітычным прыдаткам, пазбаўленым уласнай зьнешняй палітыкі, а значыць, і здольнасьці абараняць уласныя эканамічныя і палітычныя інтарэсы. Іншымі словамі,, урад Лукашэнка-Чыгіра падпісаў акт аб уласнай неабгрунтаванасьці і спрабуе здаць незалежнасьць і дзяржаўнасьць Беларусі.

**(Іншыя матэрыялы, прысьвечаныя аналізу беларуска-расейскіх пагадненьняў, чытайце на другой старонцы.)**

# БЕЛАРУСЬ: ОПТАМ І Ў РОЗЬНІЦУ

## ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ

### аб Мытным саюзе паміж Рэспублікай Беларусь і Расейскай Федэрацыяй

Пагадненьне аб Мытным саюзе паміж Рэспублікай Беларусь і Расейскай Федэрацыяй зьяўляецца шматмэтавым дакументам. Праблема міждзяржаўнага рэгуляваньня гандлю паміж вытворцамі абодвух дамаўляючыхся бакоў займае нязначны аб'ём (тры абзацы арт.1, адзін абзац, пп.2, 3, 5, 6, 7, 8, 9 арт.3, арт.7, пп 1, 4, 5 арт.8).

Значна большая частка пагадненьняў прысьвечана пытаньням абмежаваньня эканамічных зносін з трэцімі краінамі, увядзеньня жорсткіх рамак зьнешнеэканамічнай дзейнасьці для беларускіх вытворцаў, атрыманьню эканамічнай і палітычнай выгоды для расейскага боку. З вытрымак Пагадненьня яскрава праглядваюцца наступныя мэты:

- зьліквідаваньне Беларусі як суб'екту гаспадараньня і як суб'екту міжнароднага права, увядзеньне дармовага траньзіту нафты, газу, электраэнергіі і іншых тавараў праз тэрыторыю Рэспублікі Беларусь; прымушэньне Беларусі ўсталяваць дармовае карыстаньне ваеннымі базамі; уцягненьне Беларусі ў арбіту палітыкі сучаснага кіраўніцтва Расеі.

Першая мэта дакладна выкладзена ў п.2 арт.1, дзе сказана, што падпісаўшыя дамову краіны трактуюць Мытны саюз як "эканамічнае аб'яднаньне дзяржаў", фармаваньне адзінага механізму ўзаемаадносін з трэцімі краінамі і міжнароднымі арганізацыямі, фармаваньня адзінага механізму рэгуляваньня эканомікі, які базіруецца на рынкавых прынцыпах гаспадараньня і ўніфіцыраваным заканадаўстве. Згодна п.1, 2 арт.2., гэты працэс абымае зьнешнегандлёвае, мытнае, валютна-фінансавае, падатковае і іншыя заканадаўствы, належачыя да эканамічных умоў гаспадараньня, ценявой палітыкі, валютнага рэгуляваньня і валютнага кантролю, экспартнага кантролю і г.д. Гэта азначае, што заходняя мытная мяжа Расейскай Федэрацыі аўтаматычна пераходзіць на беларуска-польскую мяжу з усімі выцякаючымі адгэтуль эканамічнымі і палітычнымі наступствамі.

Паралізаваная беларуская эканоміка ўцягваецца ў эканамічны хаос Расеі, што выключае ўсялякую надзею на яе ажыўленьне. Самыя дзеяздольныя прадпрыемствы будуць выведзены з працэсу прыватызацыі грамадзянамі Беларусі, трапяць у рукі расейскага бізнесу, ужо накапіўшага капітала для гэтай мэты. Далей, усе эканамічныя санкцыі, прыменены міжнародным супольніцтвам супраць Расеі за парушэньні правоў чалавека, напрыклад, у сувязі з чачэнскімі падзеямі, аўтаматычна будуць перанесены на Рэспубліку Беларусь. Негатыўныя наступствы гэтага будуць для нас непрадказальнымі.

Другая мэта - зьнішчэньне Беларусі як суб'екту міжнароднага права - выкладзена ў шэрагу артыкулаў пагадненьня. Напрыклад, у артыкуле 1, п.2а прадугледжана "устанаўленьне і прымяненьне ў адносінах з трэцімі краінамі аднолькавага тарыфнага рэжыму, агульных мытных тарыфаў і мераў нетарыфнага рэгуляваньня зьнешняга гандлю". Гэта патрабаваньне паўтараецца ў артыкуле 2, п.1.1, як абавязковае правіла для адмены абмежаваньняў ва ўзаемным гандлі. У тым жа артыкуле, п.2., зноў паўтараецца патрабаваньне "прымяненьня адзінага рэгуляваньня зьнешніх эканамічных сувязяў у адносінах трэціх краін". Але рэальна ў Беларусі і Расеі не можа быць аднолькавых падыходаў да трэціх краін у сувязі з рознымі умовамі гаспадараньня. Калі Расеі не патрабуецца імпарт нафты, газу, вуглю, металу і іншых відаў сыравіны, то Беларусь можа атрымаць іх толькі шляхам увозу.. Канечне, нам выгадна завезьці патрабуемыя матэрыялы адтуль, дзе кошт ніжэй. Адрэгуляваць дадзены працэс можна толькі адпаведным гандлёвым рэжымам. Пагадненьне адымае ў Беларусі такое права.

Чарговы падводны камень - устанаўленьня агульных мытных тарыфаў. Гэта непрымальны варыянт для беларускіх вытворцаў экспартных тавараў. З-за больш высокай цаны энергарэсурсаў і сыравіны, безсістэмнай падаткавай палітыкі беларускія вырабы маюць большы сабекошт, чым расейскія. Каб яны былі канкурэнтназдольнымі на зьнешнім рынку, мытныя тарыфы павінны быць ніжэй альбо зусім зьняты. Гэта можна вырашыць толькі пры незалежнай зьнешняй палітыцы.

Далей, у п.1.3 артыкула 2, прама запісана: "фармаваньне механізму ўзаемаадносінаў Мытнага саюза з трэцімі краінамі і міжнароднымі арганізацыямі на груньце дэлегаваньня адпаведных паўнамоцтваў адной з дамаўляючыхся краін".

Цяжка ўявіць разумнага чалавека, які, маючы магчымасьць самаму прадаць тавар, будзе шукаць зацікаўленага ў збыце чужога тавару пасярэдніка, ды яшчэ плаціць яму.

Непасрэдна служыць дасягненьню другой мэты артыкул 6, прадугледжваючы забеспячэньне адзінства кіраваньня мытнымі службамі і размяшчэньнем яго, само сабой разумеецца, у Маскве. Не можа нармальная суверэнная дзяржава перадаваць адну з важнейшых сфер сваёй дзейнасьці - зьнешнеэканамічную - у рукі іншай дзяржавы.

Неабходна адзначыць антырынкавы характар дакумента, які прагледжваецца у арт.1 п.2, арт.2 пп 1.1, арт. 4 і 5. Змест адзначаных пунктаў прама супярэчыць дэклараемаму у падпункце "б" п. 2, арт 1 патрабаваньню "рыночных принципов хозяйствования". Абсалютна некарэктныя запісы ў арт.4, якія датычаць мытных пошлін, падаткаў і збораў з тавараў, якія вывозяцца ў трэція краіны і ўвозяцца адтуль. Іх устанаўленьне зьяўляецца прэрагатывай краіны, мытную мяжу якой гэтыя тавары перасякаюць. Тое ж тычыцца палажэньняў арт. 5, якія даюць права аднабаковага зьмяненьня тарыфаў у выпадках дэфіцыту тавараў на ўнутраных рынках ці дэфіцыту плацяжоў. Гэты артыкул, з улікам залежнасьці беларускіх прадпрыемстваў ад расейскай сыравіны, дазваляе весьці любы шантаж беларускага боку.

Самая галоўная мэта Пагадненьня знаходзіцца ў "Протоколе о введении режима свободной торговли без изъятий и ограничений между Республикой Беларусь и Российской Федерацией". У перадапошнім яго абзацы гаворыцца: "Бакі пагадзіліся ў тым, што ўвядзеньне з 1 студзеня 1995 года рэжыму вольнага гандлю паміж Рэспублікай Беларусь і Расейскай Федэрацыяй у поўным аб'ёме без выключэньняў і абмежаваньняў абумоўліваецца пацьверджаньнем Ураду Рэспублікі Беларусь да 20 студзеня 1995 г. прынятых на сябе абавязкаў па пытаньнях траньзіту, у тым ліку зафіксаваных у арт. 10 Пагадненьня аб вольным гандлі ад 13 лістапада 1992 г., і выкананьнем неабходных унутрыдзяржаўных працэдур па ўвядзеньню ў законную сілу двухбаковых пагадненьняў па ўмовах захаваньня вайсковых аб'ектаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і Пагадненьня аб Мытным саюзе ад 6 студзеня 1995 г., аб чым павінна быць зроблена абвяшчэньне па дыпламатычных каналах". Па меркаваньнях спецыялістаў, кошт гэтага запісу для Беларусі - каля паўтара мільярда ў год.

Такім чынам, Пагадненьне аб Мытным саюзе паміж Рэспублікай Беларусь і Расейскай Федэрацыяй, за выключэньнем невялічкай часткі, якая тычыцца непасрэдна рэгуляваньня гандлёвых адносін паміж дзьвюма краінамі, носіць яўна аднабаковы характар і накіравана супраць інтарэсаў Беларусі. У выпадку яго ратыфікацыі і выкананьня ў поўным аб'ёме Беларусь страціць сваю эканамічную самастойнасьць, увесь прамысловы патэнцыял, страціць міжнароднае права суб'екта зьнешнеэканамічнай дзейнасьці, адмовіцца ад 1,5 млрд. долараў у год, ці 150 долараў у разліку на кожнага жыхара, будзе ўцягнута ў арбіту злачыннай палітыкі існуючага расейскага кіраўніцтва.

## ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ

### аб зьмесьце "Пагадненьня паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Расейскай Федэрацыі аб парадку завяршэньня будаўніцтва, выкарыстаньня і ўтрыманьня Вузла Баранавічы сістэмы папярэджаньня аб ракетным нападзеньні, разьмешчанага на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь".

Тэкст пагадненьня, падпісаны з беларускага боку Старшынёй Кабінета Міністраў пры Прэзідэньце Беларусі М.Чыгіром, сьведчыць аб грубым парушэньні асноўных палажэньняў Канстытуцыі Беларусі і дамоўленасьцяў у ваеннай галіне, заключаных у 1992-93 г.г. паміж Беларусьсю і Расеяй, згодна якіх усе расейскія войскі павінны быць выведзеныя з тэрыторыі Беларусі да 1996 года. Ігнаруецца канстытуцыйнае палажэньне аб імкненьні нашай краіны да нейтралітэту, наносіцца шкода дзяржаўнай уласнасьці, ставяцца пад пагрозу здароўе і жыцьцё людзей, парушаюцца іх правы. Ствараецца пагроза дзяржаўнай бясьпецы Беларусі.

Дакумент, складзены расейскім бокам, накіраваны супраць нацыянальных, маёмасных інтарэсаў Беларусі. Беларускі ваенны аб'ект - недабудаваны вузел сістэмы папярэджаньня аб ракетным нападзеньні, разьмешчаны ў Клецкім раёне (закамуфляваны ў Пагадненьні пад "Баранавічы") за 10 кіламетраў ад горада Ганцавічы - аддаецца, згодна Пагадненьня, ва ўласнасьць Расеі на 25 гадоў.

Вузел сістэмы папярэджаньня распачаты будавацца тут яшчэ Савецкім Саюзам. Прадугледжвалася магутная сістэма, якая б спажывала электраэнергіі столькі ж, колькі тры менскія трактарныя заводы (каля 200 мегават). Магнітнае поле, ствараемае такой сістэмай, вынішчала б жывое ў радыусе 60 км. Цяпер расейцы плануюць завяршыць будаўніцтва і пашырыць вугал выпраменьваньня. Ім будзе накрыта заходняя Беларусь. Жыць у зоне выпраменьваньня гэтага аб'екту небясьпечна. Людзі, якія падпісалі дакумент, зрабілі Беларусь і беларускі народ заложнікамі расейскай мілітарысцкай палітыкі. У выпадку канфлікту Расеі з цывілізаваным сьветам першы ядзерны ўдар будзе нанесены па Беларусі (па аб'екце пад Ганцавічамі).

Беспрэцэдэнтнае Пагадненьне замацоўвае страту маёмасьці Беларусі. Сказана, што:

- частка нерухомай маёмасьці і "движимое имущество Узла является собственностью Российской Федерации". (арт.3).

- "Республика Беларусь на период действия настоящего Соглашения передаёт в пользование Российской Федерации недвижимое имущество Узла и земельный участок, на котором он расположен, без взимания всех видов налогов". (арт.4). Забесьпячэньне гэтага перададзенага Расеі ваеннага аб'екта будзе ажыцьцяўляць Беларусь.

(Арт. 11. - "Белорусская сторона содействует на договорной основе обеспечению Узла продовольствием и отдельными видами материально-технических средств, а также в организации торгово-бытового и медицинского обеспечения и обслуживания персонала Узла и членов их семей".

Арт.12. - "Ввоз на территорию Республики Беларусь и вывоз с указанной территории материально-технических средств, необходимых для ввода Узла, его использования и содержания, осуществляются на беспошлинной основе".)

У Пагадненьні запісана абсалютна непрыймальнае палажэньне для такога роду дакументаў аб тым, што ў яго пасьля падпісаньня "могут вноситься дополнения и изменения" (арт.16). Гэта дае магчымасьць для самаўпраўства маскоўскай бюракратыі.

Пагадненьне ўводзіць доўгатэрміновую прысутнасьць ваеннага аб'екта і ваеннага персаналу іншай дзяржавы на беларускай тэрыторыі, стварае пагрозу ўцягненьня Беларусі ў ваенныя авантуры Расеі, небясьпеку для існаваньня беларускага народа.

Зьмест Пагадненьня, падпісанага прэм'ер-міністрам М.Чыгіром, утрымлівае прыкметы нацыянальнай здрады і падлягае неадкладнаму разгляду Вярхоўным Саветам. Павінна быць вырашана пытаньне аб адказнасьці.

Пагадненьне наносіць шкоду маёмасным і палітычным інтарэсам Беларусі і павінна быць адхілена вышэйшым заканадаўчым органам, як несапраўднае і супярэчнае інтарэсам беларускай дзяржавы.

## ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ

### аб зьмесьце "Пагадненьня паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Расейскай Федэрацыі аб парадку выкарыстаньня і ўтрыманьня радыёстанцыі Вілейка, разьмешчанай на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь".

Тэкст Пагадненьня, падпісаны з беларускага боку Старшынёй Кабінету Міністраў пры Прэзідэньце Беларусі М.Чыгіром, сьведчыць аб грубым парушэньні асноўных палажэньняў Канстытуцыі Беларусі і дамоўленасьцяў у ваеннай галіне, заключаных у 1992-93 г.г. паміж Беларусьсю і Расеяй, згодна якіх усе расейскія войскі павінны быць выведзеныя з тэрыторыі Беларусі да 1996 года. Дакумент, складзены расейскім бокам, накіраваны супраць нацыянальных, маёмасных інтарэсаў Беларусі. Беларускі ваенны аб'ект - радыёстанцыя Вілейка - аддаецца на ўласнасьць Расеі на 25 гадоў.

(Арт. 1. "Радиостанция Вилейка, находящаяся на территории Республики Беларусь, именуемая далее "Радиостанция", является российским военным учреждением".

Арт. 2. "...Недвижимое имущество Радиостанции, создаваемое после подписания настоящего Соглашения, а также движимое имущество Радиостанции являются собственностью Российской Федерации".

Арт. 2. "Республика Беларусь ...передает в пользование Российской Федерации недвижимое имущество Радиостанции и земельный участок, на котором она расположена, без взимания всех видов налогов".)

Пры гэтым ваенны аб'ект не называецца па сваёй сутнасьці, каб схаваць палітычнае значэньне перадачы яго іншай дзяржаве і адпрэчыць магчымыя патрабаваньні аплаты за аб'ект як за ваенную базу.

(Арт. 1. "Ничто в настоящем Соглашении не может рассматриваться как наделяющее Радиостанцию статусом военной базы".).

Акрамя безпрэцэдэнтнай здачы беларускай дзяржаўнай маёмасьці іншай дзяржаве, прадугледжана, што Беларусь будзе ўтрымліваць перададзеную Расеі базу за свой кошт. Гэта значыць за кошт беларускіх падаткаплательшчыкаў.

Арт. 6. "Белорусская сторона содействует на договорной основе обеспечению Радиостанции продовольствием и отдельными видами материально-технических средств, а также в организации торгово-бытового и медицинского обеспечения и обслуживания персонала Радиостанции и членов их семей".

Арт. 7. "Ввоз на территорию Республики Беларусь и вывоз ...материально-технических средств, необходимых для использования и содержания Радиостанции, осуществляется на беспошлинной основе".)

У Пагадненьні запісана абсалютна непрымальнае палажэньне для такога роду дакументаў аб тым, што ў яго пасьля падпісаньня "могут вноситься дополнения и изменения" (арт. 13). Гэта дае магчымасьці для самаўпраўства маскоўскай бюракратыі.

Пагадненьне замацоўвае страту маёмасьці Беларусі і доўгатэрміновую прысутнасьць ваеннага аб'екта і ваеннага персаналу іншай дзяржавы на беларускай тэрыторыі. Беларусь робіцца заложніцай чужой ваеннай палітыкі. У выніку магчымага канфлікту Расеі з цывілізаваным сьветам удар будзе нанесены па Беларусі і, менавіта, па базе ў Вілейцы. Пагадненьне супярэчыць таксама прынцыпу імкненьня да нейтралітэту, запісанага ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Характар яго закранае важныя асьпекты міжнароднай палітыкі і міждзяржаўных дачыненьняў. Такое пагадненьне не меў права падпісваць Старшыня Кабінету Міністраў, а толькі Прэзідэнт, пасьля чаго патрэбна ратыфікацыя Вярхоўным Саветам. М.Чыгір перавысіў свае паўнамоцтвы, што падлягае адказнасьці.

Пагадненьне, якое наносіць шкоду маёмасным і палітычным інтарэсам Беларусі, не павінна быць ратыфікавана.

**Ценявы (грамадзкі) Кабінет Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце.**
**25 студзеня 1995 г., г.Менск.**

**(Астатнія матэрыялы чытайце ў наступным нумары)**

# ГРАМАДЗТВА

## «ПАТРЭБНЫ ЖАНІХІ, А НЕ ЦЫНКАВЫЯ ТРУНЫ»

**Два выхадныя запар сябрамі партыі Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", на Савецкім пляцы вабласнога цэнтру, быў наладжаны пікет па збору подпісаў супраць магчымага ўдзелу беларускіх жаўнераў у расейскай агрэсіі ў Чачні.**

Жыхары і госьці Горадні выказвалі да пікетчыкаў вялікую цікаўнасьць. Падыходзілі, распытвалі, набывалі праграмныя дакументы Народнага Фронту, ставілі свае подпісы пад адозвай да Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, выказвалі свае самыя разнастайныя меркаваньні. Сталы гарадзенец, усчуўшы, што адозва рыхтуецца як зварот да Вярхоўнага Савету, з горыччу заўважыў, што Прэзідэнт Беларусі за свае абяцанкі варты "паспытаць" яго куляскі. Трое дзяўчат з Пінска, паставіўшы подпісы, згадалі: "На Беларусі дзяўчатам патрэбны жаніхі, а не цынкавыя труны". Відаць, таму і ціха, сьціпла паводзілі сябе стаяўшыя непадалёк людзі, папярэдне сказаўшы, што яны прадстаўляюць на пляцы "Саюз афіцэраў".

Амаль дзьве сотні гарадзенцаў выказалі свае адносіны да несправядлівай вайны расейскіх кіруючых колаў у Чачні, паставіўшы свае подпісы пад дакументам, які адвяргае ваенную сілу як сродак міжнародных зносін.

**Г.АСТРОЎСКІ.**

## ГІСТОРЫЯ МЕДЫЦЫНЫ ЯК АРГУМЕНТ НА КАРЫСЬЦЬ ІМПЕРЫІ

Як і было абвешчана ў пазамінулым нумары "Пагоні", у Гарадзенскім дзяржаўным медыцынскім інстытуце адбылася навуковая гісторыка-медыцынская канферэнцыя. У наш час, калі цікавасьць грамадства да сваёй гістарычнай спадчыны застаецца незадаволенай, такую канферэнцыю ў аўтарытэтнай ВНУ нашага горада можна толькі вітаць. Тым больш, калі гаворка ідзе пра лекарскае асяродзьдзе, вядомае сваім кансерватызмам, не ў апошнюю чаргу дзякуючы камуністычнай выхаваўчай палітыцы бяззьменнага кіраўніцтва медінстытута на працягу дзесяцігоддзяў.

Што там гаварыць, вяртаньне навуковай медычнай думкі да вытокаў вышэйшай медычнай адукацыі на Гарадзеншчыне адбылося. Гаварылі і пра Тызенгаўзаўскую акадэмію, і пра выдатных медыкаў... І пра Пілсудзкага, які ў Ліпнішскай аптэцы выдаў сваю газету. Але, як высьветлілася, сьвяткавала грамадства "125 лет Общества врачей Гродненской губернии". Гэтак значыць... І далей жывем, сябры-лекары, у вядомай імперыі. Добра, добра, відаць, разумеюць апошнія палітычныя вектары бацькі гісторыі медыцыны ў нашым дзяржаўным інстытуце. Калі яны, сапраўды, зьяўляюцца прыхільнікамі "губерніі", дык чаму ж забыліся запрасіць на сьвята берасьцейцаў; бо, як вядома, Гарадзенская губернія спалучала у сваіх межах два рэгіёны, а сярод Гарадзенскай прафесуры шмат выхадцаў з Палесься.

Але ж асабліва цікавым быў заключны "круглы стол" канферэнцыі, дзе высьвятлялі, ці патрэбна замежным студэнтам выкладаньне культуры Беларусі. Зразумела, што на расейскай мове, і зразумела, відаць, з прагматычнага боку гледжаньня - не трэба. Адсюль вельмі блізкая выснова - і сваім навошта? На жаль, многае яшчэ не разумеюць выхаваўцы нашых студэнтаў, якія крычаць пра вакуум у выхаваўчых ідэях і думаюць пра новыя "ізмы" замест выкарыстаньня здаровай нацыянальнай ідэі.

**Міхась ЯВАР.**

## НАЙВЯЛІКШУЮ ЦІКАЎНАСЬЦЬ У КАМЕРСАНТАЎ ВЫКЛІКАЛА КРАМА N 37

Напрыканцы студзеня, у Горадні, упраўленьнем камунальнай маёмасьцю і прыватызацыі Гарадзенскага гарвыканкама праведзены восьмы аўкцыён. На аўкцыён было выстаўлена пяць аб'ектаў на агульную суму - два мільярды 270 мільёнаў рублёў. Найвялікшую цікаўнасьць у камерсантаў выклікала крама N 37 Гархарчгандлю. На гэты аб'ект было пададзена сем заяў.

Самым дарагім аб'ектам аўкцыёна стала крама N 26 Гархарчгандлю, за яго выдаткавана 850 мільёнаў рублёў, МГГП "Любава" было прададзена за 500 мільёнаў, астатнія тры аб'екты пацягнулі значна меней.

Наступны аўкцыён па продажы аб'ектаў камунальнай уласнасьці адбудзецца ў сакавіку 1995 года.

**Г.А.**

## ШКОЛА ДЛЯ ШЭРАГОВАГА СКЛАДУ

У Горадні, на базе вабласнога Упраўленьня ўнутраных спраў, ствараецца школа для падрыхтоўкі міліцыянтаў. Асвойваць азы службы тут будуць, выключна, шэрагоўцы. Таксама, па ініцыятыве УУС, на Гарадзеншчыне, у аддзьдзелах РАУС, ствараюцца службы па збору інфармацыі аб злачынцах.

Стварэньне такіх службаў стала магчыма дзякуючы скарачэньню 53 штатных супрацоўнікаў вабласнога УУС.

**Г.Б.**

## ВЫМУШАНЫ БІЗНЕС

Складанае становішча, у якім апынуліся аўтобусныя паркі вобласьці, прымушае шукаць розныя лазейкі, каб неяк пакрыць страты. Астравецкія аўтамабілісты, напрыклад, знайшлі працу для грузавікоў у расейскай Калінінградзкай вобласьці і Летуве. А вось аўтобусны парк N1 г. Горадні з мінулага году стаў спецыялізавацца на... перавозцы мэблі. З гэтай нагоды тут у некаторых "Ікарусах" паздымалі мяккія сядзеньні і ў салоне складуюць заходнееўрапейскую мэблю. Некалькі рэйсаў ад Варшавы да Масквы, дзе расейскія фірмачы з посьпехам прадаюць яе і нядрэнна плацяць за перавозкі гарадзенскім аўтобусьнікам,- і навошта вазіць пяць-дзесяць сваіх пасажыраў у Карэлічы ці Сьвіслач?

**М.МАЗУР**

## ДЗЯКУЙ А.ЛУКАШЭНКА, ШТО РАСТЛУМАЧЫЎ

Палац хімікаў, дзе Аляксандр Рыгоравіч заснаваў сваю вертыкаль, быў атачоны шматтысячнай людзкой грамадой. Калі зьявіўся сам прэзідэнт, то людзі закрычалі: "Ганьба! Ганьба! У адстаўку!".

Спадар Лукашэнка затрымаўся як раз у тым месцы, дзе стаяў і я. Паглядзеўшы на людзей, ён спытаў: "Кого в одставку?" Я не разгубіўся і адказаў: "Вас, за вашы абяцанкі, за тое, што жыцьцёвы ўзровень народа дайшоў да нулявой адзнакі, за тое, што барацьба з мафіяй і карупцыяй амаль не вядзецца". Усчуўшы такі адказ спадар прэзідэнт ня стрымаў злосьці: "С вас и начнём вести борьбу с мафией".

Дзякуй прэзідэнту, растлумачыў, бо я і не ведаў, што гэта я, дзядуля-пеньсіянер, абрабаваны інфляцыяй і сталым ростам коштаў, той чалавек, які ў прэзідэнцкім уяўленьні мафіёзі, з якога ён пачне выкарэньваць мафіёзныя структуры на Беларусі.

**А.ШАЎЧУК,**
**пеньсіянер.**

## ТАЯМНІЦА НА ДАЛОНІ

**Галасна было другога лютага ў рэдакцыі "Лідзкай газеты". Сюды наведаўся салідны кагал супрацоўнікаў мясцовых банкаў. У чым справа? А ў тым, што газета надрукавала сярэднія лічбы заробкаў працоўных розных катэгорый, у тым ліку і банкаў, за сьнежань 1994 года. І што, дапусьціла памылку? "Ды не, - кажа рэдактар І.В.Швакель, - прэтэньзій да дакладнасьці не было. Бачыце, газета выкрыла "камерцыйную таямніцу", якая да гэтага была ва ўсіх статыстычных справаздачах гарвыканкама; але просты калгасьнік і не ведаў, што яго катаржная праца з раньня да цямна ў 20-40 разоў меней каштоўная, чым перакладваньне паперак з месца на месца ў "Аграпрамбанку". Прывядзем табліцу, зьмешчаную ў "Лідзкай газеце" ад першага лютага 1995 года.**

### ХТО КОЛЬКІ ЗАРАБЛЯЕ

**(сярэдні заробак аднаго працаўніка ў сьнежні 1994 года)**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **БАНКІ** | | | | | |
| "Аграпрамбанк" | 2 млн. 112 тыс.руб. | "Прамбудбанк" | 1 млн. 102 тыс.руб | . "Магнатбанк" | 266 тыс.руб. |
| **ГАРВЫКАНКАМ** | | | | | |
| Усе адзьдзелы (у сярэднім) | 177 тыс.руб. | | | | |
| **ПРАМЫСЛОВЫЯ ПРАДПРЫЕМСТВЫ** | | | | | |
| АТ "Лакафарба" | 422 тыс.руб. | "Лідсельмаш" | 98 тыс.руб. | Завод электравырабаў | 262 тыс.руб. |
| "Лідаграпраммаш" | 167 тыс.руб. | Ліцейна-механічны завод | 248 тыс.руб. | Мэблевая фабрыка | 257 тыс.руб. |
| Абутковая фабрыка | 185 тыс.руб. | Мясакамбінат | 181 тыс.руб. | Піўзавод | 204 тыс.руб. |
| "Лідхарчканцэнтраты" | 173 тыс.руб. | Хлебазавод | 227 тыс.руб | Досьледны завод "Нёман" | 318 тыс.руб.. |
| Камбінат збожжапрадуктаў | 159 тыс.руб. | Друкарня | 558 тыс.руб. | "Лідабудканструкцыя" | 202 тыс.руб. |
| "Лідабудматэрыялы" | 397 тыс.руб. | Завод "Оптык" | 150 тыс.руб. | Завод "Ізатрон" | 132 тыс.руб. |
| Малочнакансервавы кабмінат | 196 тыс.руб. | | | | |
| **КАЛГАСЫ** | | | | | |
| "Зара" | 85 тыс.руб. | "Бердаўка" | 120 тыс.руб. | імя Мічурына | 82 тыс.руб. |
| імя Чапаева | 397 тыс.руб. | "Рассвет" | 111 тыс.руб. | імя Гагарына | 101 тыс.руб. |
| "Іскра" | 122 тыс.руб. | імя Чкалава | 166 тыс.руб. | "Запаветы Ільіча" | 315 тыс.руб. |
| "Камунар" | 58 тыс.руб. | імя Куйбышава | 52 тыс.руб. | "Сьцяг Саветаў" | 76 тыс.руб. |
| "Беларусь" | 145 тыс.руб. | "Нёман" | 144 тыс.руб. | АГФ "Дзітва" | 158 тыс.руб. |
| "М.Мажэйкава" | 449 тыс.руб. | "Ніва" | 67 тыс.руб. | імя Леніна | 92 тыс.руб. |
| "Лідзкі" | 151 тыс.руб. | Птушкафабрыка | 262 тыс.руб. | | |
| Медыцына | 177 тыс.руб. | Культура | 132 тыс.руб. | Народная адукацыя | 262 тыс.руб. |
| Будаўнікі (горад) | 325 тыс.руб. | Аўтапарк N 2 | 238 тыс.руб. | Аўтакамбінат N 3 | 263 тыс.руб. |
| Чыгуначнікі | 287 тыс.руб. | | | | |

**Падрыхтаваў Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

## ЦАГЛІНКА Ў БУДЫНАК НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ШКОЛЫ

У выдавецтве "Вышэйшая школа" на беларускай мове выйшаў сігнальны асобнік першай кніжкі трохтомнага падручніка "Курс вышэйшай матэматыкі". Аўтары - Валянцін Русак , Людміла Шлома, Віктар Ахраменка, Алесь Крачкоўскі - упершыню скарысталі навейшую, сапраўды беларускую тэрміналогію. Ім удалося пазьбегнуць калек, русізмаў, запазычаньняў з іншых моваў. У абіход уводзяцца такія тэрміны, як "раўнаньне" замест "ураўненьне", "разьвязаць", "разьвязак" замест "рашэньне", "мнагасклад" замест "мнагачлен" і інш.

Паралельна з падручнікам падрыхтаваны да выданьня і задачнік. Можна спадзявацца, што з першага верасьня студэнты ВНУ змогуць пачаць навучаньне з новай кніжкай у руках. Акрамя лінгвістычных вартасьцяў трэба адзначыць і чыста матэматычную вартасьць падручніка. Гэта падручнік беларускіх аўтараў, створаны на традыцыях беларускай матэматычнай школы. Гэта, можна сказаць, цаглінка ў будынак той нацыянальнай беларускай школы, пра якую так шмат гаворыцца і для станаўленьня якой так шмат робіцца энтузіястамі і так мала Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь.

**Станіслаў СУДНІК.**

## У.КАРАГІН: «ЧАС АДЗІНОЧАК ПРАЙШОЎ»

7 лютага старшыня Саюза прадпрымальнікаў Беларусі У.Карагін сустрэўся з дзелавымі людзьмі Горадні. Ён выказаў заклапочанасьць тым, што на 30 працэнтаў сёлета ўзмацніўся падаткавы прэс, што закранае, ў першую чаргу, сумленных прадпрымальнікаў, а таксама тым, што "бюракратычны апарат расьце, колькасьць палак, бізуноў павялічваецца".

На думку У.Карагіна, сёньня, як ніколі, працадаўцы не абаронены. Ён сказаў: "У нас ёсьць прынцып: "Паважай уладу". Але жадаем, каб і яна нас паважала". Па яго словах, летась урад 114 разоў парушыў Генеральнае пагадненьне, не ўзгадніўшы свае рашэньні з Саюзам прадпрымальнікаў.

У.Карагін шмат расказаў прысутным пра тое, якія захады зрабіў СП РБ, як у мінулым годзе, так і сёлета, каб абараніць інтарэсы не толькі прадпрымальнікаў, але і іншых суб'ектаў гаспадараньня і простых людзей. Напрыклад, прадухіліць прыняцце прапаноў: вызначыць Мінгандлю РБ дзяржаўным заказчыкам на пастаўку важнейшых сацыяльна значымых тавараў народнага спажываньня; перападпарадкаваць Галоўнае ўпраўленьне падаткавых дасьледаваньняў Мінфіна РБ - МУС РБ; пашырыць дзеяньне артыкула 150-6 (спекуляцыя); павялічыць падаходны налог да 50 працэнтаў. Ён адзначыў, што "час адзіночак прайшоў" і заклікаў прадпрымальнікаў аб'ядноўвацца.

У.Карагін занепакоены тым, што ў Менску ўжо дзесяткі аб'ектаў належаць іншаземцам, якія атрымалі іх пры пасрэдніцтве беларускіх фірм. Па яго словах, зараз ідзе скупка банкаў, прадпрыемстваў, зьвязаных з энерганосьбітамі усходнім суседзям, і можа здарыцца так, што праз паўгады усё будзе належыць яму. "Мы не супраць інвестыцый, але не прымаем зьяву, калі адкінутымі аказваюцца айчынныя прадпрымальнікі", - сказаў У.Карагін.

Лідэр СП РБ выказаў думку, што 90 працэнтаў эканомікі Горадні ніколі не мела дачыненьня да бюджэта. Ён паведаміў, што Саюз прадпрымальнікаў будзе садзейнічаць адкрыцьцю ў горадзе на Нёманам Цэнтра разьвіцьця прадпрымальніцтва, Фонда фінансавай падтрымкі прадпрымальніцтва, арганізацыі ярмарак.

Свае погляды на цяперашнее становішча ў недзяржаўным сектары эканомікі выказалі старшыня Гарадзенскага прафсаюза прадпрымальнікаў "Ліга" Я.Кармільчык, старшыня Гарадзенскага Саюза прадпрымальнікаў А.Гардон. Апошні, у прыватнасьці, сказаў, што надыйшоў час арганізаваць на межы з Польшчай камерцыйны пераход.

На сустрэчы выступіў таксама старшыня Гарадзенскага гарвыканкама Г.Крупенка. Ён выказаўся за тое, каб раз на месяц сустракацца з прадпрымальнікамі, каб "ставіць на месца адзін аднаго". Ім была падтрымана прапанова арганізаваць у Горадні працэс стандартызацыі і сертыфікацыі тавараў ("Лепей карміць свайго чыноўніка").

**А.ДУК.**

